

# НАША СЛОВА

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 37 (1552) 16 ВЕРАСНЯ 2021 г.**


# *17 верасня - Дзень народнага адзінства*

## У нас няма паралельнай Беларусі



Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім па-ранейшаму не верыць, што ўлады гатовыя закрыць ТБМ, паразважала на тэму супрацоўніцтва з дзяржавай і адказала на пытанні Віталя Цыганкова.

*- Як выглядае сітуацыя на працэсе наконт магчымага закрыцця ўладамі Таварыства беларускай мовы? Які ваш прагноз на вынік гэтага працэсу?*

- ТБМ атрымала два папярэджанні ад Міністэрства юстыцыі ў сувязі з праверкай дакументаў. І, натуральна, мы чакалі далейшых крокаў. Аднак пра тое, што ў Вярхоўным судзе будзе паседжанне 27 жніўня, мы даведаліся толькі з СМІ. Атрымаўшы дакументы, мы пачалі раіцца з юрыстамі. У выніку 26 жніўня я падала скаргу на другое папярэджанне міністэрства, бо не закончыўся месячны тэрмін з дня нашага азнаямлення з папярэджаннем.

На паседжанні я заявіла хадайніцтва аб пераносе паседжання Вярхоўнага Суда ў сувязі з тым, што наша скарга яшчэ не разгледжана. Суддзя і пракурор пагадзіліся, што трэба перанесці і спачатку адказаць на нашу скаргу. У мяне стварылася ўражанне, што яны проста чакалі, ці заяўлю я хадайніцтва, і былі гатовыя да гэтага.

*- Вы так падрабязна апавядаеце пра гэтыя абставіны, але ўзнікае пытанне, які ў гэтым сэнс. Няўжо вы не разумееце, што калі дадзены адпаведны палітычны загад, то ТБМ закрыюць у любым выпадку?*

- Вы слушна сказалі, што калі прынята палітычнае рашэнне, то мы ні на што паўплываць не можам. Я, аднак, спадзяюся, што такое палітычнае рашэнне не прынята. Што проста Міністэрству юстыцыі далі разнарадку ліквідоўваць грамадскія арганізацыі, і яны гэта робяць.

Я разумею такую рэч. Для беларусаў, якую б пасаду яны не займалі, ліквідаваць ТБМ - гэта тое самае, што адмовіцца ад саміх сябе. То-бок прызнаць, што мы - не беларусы і правы на беларускую мову ў нас няма. Я толькі на гэты момант і магу спадзявацца.

*- На такое спадзяваліся і многія прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, і людзі, якія траплялі пад рэпрэсіі, маўляў, "мы адзін народ, мы беларусы", але ўлады паказалі, што яны такіх сентыментаў не маюць.*

- Цягам мінулых гадоў уладамі ствараліся паралельныя структуры: праўладны саюз журналістаў, саюз пісьменнікаў. Маўляў, нікто не забараняе быць журналістам ці пісьменнікам - няхай туды ўступаюць, няма ў нас ніякай забароны на прафесію. Але ствараць паралельнае Таварыства беларускай мовы - на гэта, я думаю, ніхто не пойдзе.

*- А яно ім патрэбна?*

- Гэта козыр ім будзе не лішнім. Калісьці зноў з'явіцца патрэба размаўляць з цывілізаваным светам. І таму я і кажу, што спадзяюся толькі на гэтую логіку. Я разумею, што нас можна закрыць адной левай. І, калі яны гэта зробяць, мы ўсё зразумеем канчаткова, што ўсе масты зруйнаваныя і для ўлады адна дарога - на Усход.

*- Якой можа быць стратэгія ў абароне беларускай мовы ў цяперашніх палітычных умовах? Бо раней, падчас "мяккай беларусізацыі" (як бы ні ставіцца да гэтага тэрміну) можна было звяртацца да дзяржаўных структураў, апеляваць за закону. Улада нават часткова адгукалася на нейкія патрабаванні беларусізацыі, не перашкаджала дзеянням актывістаў. Цяпер грамадзянскай супольнасці ўжо не варта спадзявацца на законы, не варта спадзявацца на дзяржаву?*

- Я не разумею такой пастаноўкі пытання. Вы неяк аддзялілі "быць грамадзянскай супольнасцю" і "звяртацца да дзяржавы". А што, грамадзянская супольнасць не мае неабходнасці звяртацца да дзяржавы?

Мы пастаянна звяртаемся. І не таму, што моцна яе любім, але таму, што ёсць пытанні, якія толькі дзяржава і можа вырашаць.

Калі нам трэба арганізоўваць клас у школе, то мы звяртаемся да дзяржавы, да каго яшчэ?

*- Ну вось пытанне ў тым, што калі людзі хочуць стварыць беларускамоўную групу ў садку, ці ім звяртацца ў афіцыйныя структуры, альбо самім ствараць цалкам прыватны садок - без дапамогі дзяржавы?*

- Я, вядома, рамантык, але не ў такой ступені. У нас ёсць паралельная Беларусь? Не. Калі сённяшняя ўлада імкнецца захаваць, то яна вымушаная вырашаць і тыя пытанні, якія ёй не падабаюцца. Адкрываць беларускія садкі, бо падаткі плацяць усе грамадзяне, у тым ліку беларускамоўныя. У Канстытуцыі напісана, што беларуская мова дзяржаўная.

Якая б улада не была ў Беларусі, яна павінна ведаць, што тут ёсць грамадзянская супольнасць, якая будзе ўздымаць пытанне паўнавартаснага функцыянавання беларускай мовы. І ў гэтым галоўны сэнс функцыянавання нашай арганізацыі...

**P.S. 15 верасня ў 15.00 у Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь - разгляд скаргі ТБМ на 2-е папярэджанне Міністэрства юстыцыі.**




## Выйшаў з друку новы беларускі Буквар




У верасні беларускія дзеткі пачалі вучыцца па новым Буквары. Аўтарамі выдання з'яўляюцца Вольга Свірыдзенка і Вольга Цірынава.

Відаць, эпоха Буквара Анатоля Клышкі (1935-2021) закончылася. Буквар Анатоля Клышкі выкарыстоўвася ў школах Беларусі з 1969 па 2021 год. Цяпер беларускія першакласнікі будуць вучыцца па новым Буквары. Як пішуць СМІ, новы падручнік мае ярка выражаны нацыянальны кантэнт. У яго ўключаны заданні і практыкаванні, што адлюстроўваюць каштоўнасці культуры беларускага народа. А для лепшага ўспрымання першакласнікі з дапамогай QR-кодаў атрымаюць доступ да дадатковага медыякантэнту: серыі мультфільмаў кінастудыі "Беларусьфільм" пра літары алфавіта. Прэзентацыя новага Буквара ўжо адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Да прэзентацыі была арганізавана выстава з 30 Буквароў з фондаў бібліятэкі.

***Паводле СМІ.***

## Шаноўнае спадарства!

**Усё - па ўсім. Вірус, смута, суды, перспектывы на закрыццё і г.д. Але пакуль тое ўсё недзе там, то падпіска на 4-ты квартал 2021 года ідзе, і калі мы не парупімся, то закрыем газету самі ў выніку адсутнасці чытачоў.**

**Цана падпіскі ранейшая:**
**на 1 месяц - 2,88 руб.;**
**на 3 месяцы - 8,64 руб.**

**Паспяшайцеся на пошту. Гэта самы просты варыянт падтрымаць ТБМ хоць нечым.**

# Месца захавання нацыянальных святынь сабрала на свой юбілей спецыялістаў і гасцей






9 верасня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбыўся круглы стол, прысвечаны 15-годдзю Музея кнігі і прайшло адкрыццё юбілейнай выставы "5+5+5". На юбілейную падзею прыбылі з кніжнымі падарункамі і віншаваннямі супрацоўнікі музеяў і бібліятэк з розных гарадоў: Менска, Полацка, Гомеля, Веткі і іншых, тыя, хто шмат гадоў захоўваюць, шануюць і вывучаюць кніжныя скарбы.

Падчас працы круглага стала гісторыю стварэння Музея кнігі ўзгадвалі старэйшыя супрацоўніцы Нацыянальнай бібліятэкі, якія ўзначальвалі аддзел рэдкай кнігі ў розныя часы: Таццяна Рошчына, Галіна Кірэева і Наталля Марцінкевіч.

Канцэпцыя развіцця бібліятэкі з самага пачатку прадугледжвала функцыяніраванне і пашырэнне музея рэдкіх кніг. У верасні 2006 года ў новым сучасным будынку бібліятэкі быў адчынены Музей у такім выглядзе, як ён існуе зараз.

- Музей стаў сапраўдным феноменам сучаснай культуры Беларусі і прыцягальным асяродкам для аматараў, даследчыкаў і калекцыянераў кніг. Місія музея, - адзначыў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алесь Суша, - застаецца нязменнай: папулярызаваць і набліжаць да шырокай аўдыторыі каштоўныя помнікі кніжнай культуры.

- Калі само галоўнае кнігасховішча краіны можна назваць Храмам Кнігі, то Музей - гэта сапраўдны алтар, дзе захоўваюцца найбольш каштоўныя кнігі, выдадзеныя Францішка Скарыны, Біблії, Евангеллі, святыя кнігі іншых народаў свету, - выказала думку адна з удзельніц круглага стала.

Спадарыня Наталля Марцінкевіч распавяла, як былі замоўлены, прывезены і ўсталяваны вітрыны для экспанатаў музея. У пахмурны ветраны дзень супрацоўніцы бібліятэкі з хваляваннем назіралі, як кран узняў шкляную вітрыну і вецер гойдаў яе, як калыску... І вось за празрыстым шклом ужо захоўваюцца нацыянальныя святыні!

Супрацоўнікі Музея гісторыі беларускай літаратуры і музея Максіма Багдановіча, Гомельскай абласной бібліятэкі, Веткаўскага музея выказалі словы віншавання і ўдзячнасці сваім калегам з Нацыянальнай бібліятэкі.

Супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Юры Лаўрык узгадаў найбольш яркія, на яго думку, выставачныя праекты, звязаныя з дэманстрацыяй Статута Вялікага Княства Літоўскага, Бібліі, і кніжнай спадчыны Яна Баршчэўскага з яго мемарыяльнай дошкай. Важнымі з'яўляюцца праекты па папулярызацыі класікі, па прамоцыі новых выданняў для дзяцей і юнацтва. Падчас круглага стала дыскусія таксама закранала пытанні інавацыйных падыходаў, перспектываў і кірункаў кнігазнаўчай дзейнасці.

На падзеі прысутнічалі дзіцячыя пісьменніцы Алена Масла і Надзея Бунцэвіч. Чароўным зоркалётам, які запрашае ў незвычайнае падарожжа дзяцей, назвала Музей кнігі журналістка і пісьменніца Алена Масла.

Госці выказалі ўдзячнасць Таццяне Захаравай і Таццяне Сапезе за іх плённую працу па папулярызацыі кнігі, за інтэрактыўныя заняткі з дзецьмі і падлеткамі ў рамках музейнай педагогікі, якія выхоўваюць у моладзі годнасць быць беларусамі, прыналежаць да беларускай культуры.

На новай выставе"5+5+5", якая адкрылася 9 верасня, прадстаўлены 5 рукапісаў, 5 старадрукаваных выданняў і 5 рэдкіх выданняў. Сярод іх - старажытныя рукапісныя помнікі і найстарэйшыя асобнікі кніг - святы тэкст мусульман "Адкрывальнік ісціны суны" 1377 года і Евангелле Пятра Мсціслаўца 1575 года, надрукаванае ў Вільні. Зацікавіць наведвальнікаў гербарый XV стагоддзя з бібліятэкі князёў Радзівілаў, "Вянок" з аўтографам Максіма Багдановіча і іншыя рарытэты.



*Э. Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Дыпламатычная дзейнасць беларускіх пісьменнікаў у ААН

*"Акварыюм будыніны ААН,*
*Дзе плаваюць і плоткі і акулы,*
*Затоена маўчыць, што акіян,*
*Які трывога скваппа заглынула"*
***Р. Барадулін.***

Новая кніга кандыдата гістарычных навук, дэкана факультэта міжнародных адносін БДУ Ігара Аўласенкі "Беларускія пісьменнікі ў ААН: выступленні, назіранні, разважанні, уражанні", якая выйшла ў 2021 годзе ў "ІВЦ Мінфіна", стала даступна чытачам. Манаграфія прысвечана традыцыі ўключэння пісьменнікаў у склад дэлегацыі Беларускай ССР на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Штуршком для аўтара паслужылі факты з даведнікаў пра тое, што 29 беларускіх літаратараў наведвалі ЗША ў складзе дыпламатычных місій.




месцы, дзе звычайна выступаюць старшыні дэлегацый, лідары найбуйнейшых краін свету. Занепакоенасць у яго выклікала замаруджанасць у перамовах па разбраенні, расчараванне з-за нядзолнасці сусветнай супольнасці дамовіцца аб спыненні гонкі ўзбраенняў. Гэта занепакоенасць адлюстроўвалася ў вершах. Г.М. Бураўкін некалькі разоў наведваў ЗША ў розныя перыяды гісторыі. У першы раз - у канцы 70-тых гадоў, што знайшло адлюстраванне ў асобным раздзеле пад назвай "Амерыканскія эскізы".

У наступны раз Г.М. Бураўкін патрапіў у склад дэлегацыі БССР ў 1989 годзе, падчас эпохі галоснасці, калі пачалася "разрадка" напружанасці на міжнароднай арэне. Яшчэ праз год Генадзь Бураўкін апынуўся ў ЗША ўжо з доўгатэрміновай дыпламатычнай місіяй: ён заняў пасаду пастаяннага прадстаўніка БССР пры ААН. Графік яго быў больш насычаны. Асабліва гэта насычанасць узрасла праз год, калі Савецкі Саюз распаўся, і трэба было тэрмінова вырашаць цэлы шэраг пытанняў па ўсталяванні кантактаў з дзелавымі і дыпламатычнымі коламі іншых краін. Часу на творчасць стала значна менш.

Што ж каштоўнага для нашага часу застаецца ў творах і дакументах асабістага характару пісьменнікаў-дэлегатаў? "Вопыт іх сістэматычнага ўдзелу ў афіцыйнай дыпламатыі БССР сведчыць пра тое, што вялікі патэнцыял мае не толькі афіцыйная, але і неафіцыйная дыпламатыя,"- канстатуе аўтар. У кнігу ўключаны пералік мастацкіх твораў, нарысаў, рэпартажаў беларускіх пісьменнікаў па выніках іх паездак у ЗША. Сярод гэтых твораў - нізка вершаў Г. Бураўкіна "Амерыканскія эскізы", кніга нарысаў А. Вярцінскага "Нью-Ёркская сірэна", нарыс Віктара Казько "Паездка ў Філадэльфію", Анатоля Кудраўца - "Лісты з Амерыкі", "Недыпламатычныя нататкі"

Для свайго даследавання аўтар выкарыстоўваў пратаколы пасяджэння ЦК КПБ аб складзе дэлегацыі БССР на сесію ГА ААН, дзённікавыя запісы і эпісталярную спадчыну пісьменнікаў, мемуары літаратараў. Многія беларускія пісьменнікі, пабываўшы на сесіях Генеральнай Асамблеі, імкнуліся падкрэсліць найперш нацыянальнае, беларускае.




У кнізе цытуюцца "Асамблейныя замалёўкі" Міхася Лынькова, " Нью-Ёркскія малюнкі" Пімена Панчанкі, "Недыпламатычныя нататкі" Максіма Танка, "Два месяцы ў Нью -Ёрку" Івана Шамякіна, "Апошняя пастараль" Алеся Адамовіча, у "Суаўтарстве з Гудзонам" Рыгора Барадуліна, "Амерыканскія эскізы" Генадзя Бураўкіна.

Аўтар кнігі шукаў адказы на наступныя пытанні: як успрымалі беларускія літаратары работу сесій Генеральнай Асамблеі ААН, якімі яны бачылі Злучаныя Штаты і амерыканскі лад жыцця ў час супрацьстаяння дзвюх дзяржаў, праціборства двух лагераў, калі дзейнасць літаратараў за мяжой строга кантралявалася? Як паэты і празаікі вырашалі праблему супярэчнасці творчай і афіцыйнай дзейнасці? Рыгору Барадуліну выпаў гонар выступлення на пленарным пасяджэнні, на тым

Максіма Танка, нарыс Івана Шамякіна "Два месяцы ў Нью-Ёрку". Многія вершы і нататкі ў той час былі напоўнены крытычным поглядам на амерыканскі лад жыцця, крытычным стаўленнем да відовішчаў і забаваў, крыклівай рэкламы, але праз іх можна было атрымаць шмат інфармацыі пра краіну.

Па гэтых прычынах зварот да творчай і дыпламатычнай спадчыны пісьменнікаў застаецца актуальным і надалей. Мемуары, дзённікавыя запісы, лісты даюць магчымасць прасачыць як афіцыйны бок работы дэлегацыі БССР у ААН, так і побыт, унутраную псіхалагічную атмасферу, нефармальныя ўзаемасувязі. Кніга разлічана на спецыялістаў у галіне міжнародных адносін, літаратуразнаўства і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускай дыпламатыі.

***Падрыхтавала Э. Дзвінская.***

## Беларуская навука доўга будзе расплачвацца за такую страту

***Слова пра гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага***

Гісторык Ірына Раманава, укладальніца манументальнага зборніка архіўных дакумэнтаў "Улада і грамадства. БССР у 1929-1939 гадах", піша пра памерлага калегу Уладзіміра Ляхоўскага.



*Сёння ў сацыяльных сетках галоўная навіна - памёр Уладзімір Ляхоўскі... раптоўна... вялікая страта для беларускай навукі...*

*Я б хацела сказаць, што ён быў маім сябрам. Але больш правільна будзе сказаць, што ён быў тым чалавекам, які мне самой дапамагаў усьвядоміць важнасць таго, што я раблю.*

*У Беларусі няма нармальна дзейнай сістэмы рэцэнзавання і абмеркавання тэкстаў, кожны сам па сабе, рэцэнзіі - адпіска, канферэнцыі - пункцік для справаздачы. Але мне пашчасціла, у мяне былі суровыя крытыкі - Віталь Скалабан і Уладзімір Ляхоўскі. Менавіта Валодзі я паказвала рукапісы сваіх першых сур'ёзных публікацый. Часам ён не мог устрымацца, каб нешта туды не дадаць, а часцей сам вырашаў, дзе гэта будзе надрукавана.*

*Я не верыла, што мой велізарны зборнік дакументаў можа быць апублікаваны: афіцыйныя інстытуцыі яго не выдадуць праз тэму, а неафіцыйныя не выдадуць з прычыны кошту. Але ён казаў - ты рабі, а пасля нешта ды знойдзецца. Пры кожнай сустрэчы, якіх, на вялікі жаль, было занадта мала, ён цікавіўся: "Ну, ці хутка скончыш? Я чакаю!" Столькі разоў апускаліся рукі, і праца падавалася бясконцай, а галоўнае абсалютна бессэнсоўнай. Дзякуй, што чакаў! Яго прозвішча на маім зборніку - гэта не проста традыцыйна-рытуальны радок, гэта больш, чым імя рэцэнзента.*

*Ён быў вялікі патрыёт. У сваіх публікацыях, заснаваных на аналізе велізарнай колькасці крыніцаў, ён даводзіў, што беларусы - нацыя, што ўжо на пачатку стагоддзя мы мелі і газету, і музей, што мы стваралі свае беларускія школы, што ў нас ёсць і свае палітыкі, і культурныя дзеячы, і ў нас ёсць, чым ганарыцца. Яго расказы пра дзеячаў БНР - гэта гісторыі не аб міфічных персанажах, а пра жывых людзей, якімі яны для яго і былі. І для яго не было варыянтаў адносна нашага сцяга.*

*Гэты чалавек мог і павінен быў стварыць сваю школу. У яго была велізарная колькасць навуковых зацікаўленняў, ідэй, а яго веданню архіўных фондаў мог пазайздросціць кожны. Сам ён не мог паспець усё ахапіць, што хацеў, як бы доўга ні жыў, бо кожная новая тэма ці архіўная справа правакавалі на новыя даследаванні, часам за кошт недаробленых раней. Ён шчодра дзяліўся сваімі матэрыяламі, ідэямі, але навуковых нашчадкаў у яго няма... Валодзя быў вымушаны выкладаць зусім не гістарычныя дысцыпліны і зусім не на гістарычным факультэце. Беларуская навука доўга будзе расплачвацца за такую страту.*

**Ірына Раманава.**

# Сакрат Яновіч казаў, што толькі нацыя мае будучыню

З беларускім пісьменнікам з Беласточчыны Сакратам Яновічам (1936-2013), якому 4 верасня споўнілася б 85, я пазнаёміўся 22 красавіка 1989 года ў Слоніме, хаця яго творы ў беларускім беластоцкім тыднёвіку "Ніва" чытаў даўно. Тады ён з групай гарадзенскіх літаратараў наведаў Слонім, пабываў у рэдакцыі раённай газеты, дзе адбылася творчая гутарка пра сучасны стан беларускай літаратуры, пра ўзаемаадносіны літаратур краін-суседзяў. У канцы сустрэчы Сакрат дастаў з партфеля сваю кнігу на польскай мове "Belarus, Belarus" і хуценька паставіў аўтограф: *"Паважанаму Сяргею Чыгрыну на памятку. Сакрат Яновіч. 22.04.1989. Слонім".*

У другой палове 2000-х гадоў сустракаўся з ім часцей. Ён любіў гутарыць з тымі, хто прыязджаў з Беларусі, асабліва з тымі, хто жыў не ў Менску, а ў беларускай правінцыі, як, напрыклад, я. Хаця, і мы ўсе гэта добра ведаем, з Сакратам Яновічам размаўляць любілі многія, і ён любіў і паважаў усіх. Праўда, з ім не так і проста было весці гутарку, асабліва ў апошнія гады яго жыцця. Ён быў шмат чым незадаволены і пра гэта адкрыта казаў. Але спадар Сакрат быў шчаслівы і радаваўся тым, чым ён займаўся, радаваўся сустрэчам, радаваўся БЕЛАРУСКАСЦІ, якою жыў. Ён заўсёды быў адкрыты, як дзверы ў бацькоўскую хату. Не ведаю, можа толькі з асобнымі людзьмі ён мог адкрыта гутарыць, разважаць, казаць праўду-матку. Вядома, ён быў і застаўся сучасным чалавекам у літаратуры і жыцці. Іншая рэч, што ён, як старэйшы па гадах, любіў свой час, сваё пакаленне. Але Сакрат Яновіч любіў і нас, хаця прэтэнзій да маладых і не толькі да творчых людзей, у яго было нямала. Неяк сядзім з ім, гутарым, а ён кажа: "Вось унучка ў мяне, калі ёй трэба злотыя і хоча, каб я ёй даў, размаўляе са мной і просіць іх у мяне па-беларуску. А калі злотыя ёсць, дык тады па-польску". "І вы, вядома ж, адразу ёй даяце злотыя?" - кажу. "Даю, бо на роднай мове ласкава пытае. Як тут не даць!", - адказваў Сакрат.

Сакрат Яновіч, мне здаецца, сам сабе пярэчыў. І гэтае пярэчанне прысутнічала ў яго пастаянна. Прыгадваецца яго герой Сцяпан Кішкель з кнігі "Хатняе стагоддзе" (Крынкі, 2008). Памятаеце: *"Выклікае злосць у Сцяпана непашана да бацькоўскіх пажыткаў, заядлае выкідванне маладымі ў ямы шафаў, сталоў, табурэтак, крэдэнсаў, перагародак. Фанатычнае змаганне моладзі мець грошы на ўсеньках навюткае, моднае. Што - магчымае, вынішчаючы датла вёску. Выводзячы з яе апошнія капіталы. Абсурбаўшы бацькоў. Без пагібелі вёскі гарадскі дабрабыт дзяцей застаўся б утопіяй. Цікава, на чым будзе грунтавацца раскошны быт унукаў? Без вёскі ўжо. Урослай тым часам лесам. Без вёскі не было б горада. Але той жа горад, разрастаючыся глынае вёску. У прыродзе гатунак паядае гатунак. Беларушчына - гэта падла расейцам і палякам?..".* І ў той жа час, калі я з ім рабіў інтэрв'ю ў 2008 годзе, у гутарцы Сакрат Яновіч казаў: *"Крынкі - гэта мой свет... Крынкі для мяне - адкрыццё... Што Крынкі, што Варшава - усюды можна выдаваць добрыя кнігі...".* Вядома ж, Сцяпан Кішкель у "Хатнім стагоддзі" казаў вуснамі Сакрата. І казаў тое, што тады думаў аўтар, што думаў, наогул, пры жыцці.



Я ў Сакрата пытаўся, а чаму вашыя бацькі далі вам такое рэдкае імя - Сакрат? Можа, гэта ў гонар старажытнагрэчаскага філосафа Сакрата? Ці ведалі вашы бацькі пра грэчаскую філасофію?

- Гэта мяне маці так назвала. Яна была ў бежанстве ў Расіі за Самараю. Там пэўны час хадзіла ў расійскую школу. І аднойчы яе настаўніца пасадзіла са сваім сынам за адну парту. А таго сына звалі Сакрат. Мама дрэнна вымаўляла словы па-расійску, дык ёй заўсёды дапамагаў сын настаўніцы. І калі мае бацькі вярнуліся з тае няшчаснае Расіі на Радзіму, і калі мама выйшла замуж і нарадзіўся я, то яна заўпарцілася і ахрысціла мяне Сакратам. Хаця яна зусім не разумела і не ведала пра Сакрата нічога. Але ў яе памяці заўсёды быў той расійскі хлопчык Сакрат.

- А бацька не быў супраць, каб яго сын насіў такое імя?

- А бацька ўвогуле не ведаў, у чым справа. Ды яго гэта мала цікавіла. Як назвала жонка - так і добра.

- А ў школе з вас не смяяліся?

- Спачатку смяяліся, бо не разумелі майго імя. Называлі мяне - крот. Але аднойчы святар Антон Савіч у сваёй прапаведзі згадаў, што быў такі грэчаскі філосаф, які пацвердзіў, што чалавек мае душу, што мудрасць - аснова высокамаральных учынкаў. Тады ўсе ад мяне адсталі.

- А цяпер вы, мабыць, з гонарам носіце імя Сакрата? Дый гучыць - Сакрат Яновіч! А ні Юрка Яновіч ці Міхась Яновіч...

- Пэўна так! Бо гэта імя не штодзённае. Дый Юркаў і Міхасёў цэлыя копы, а Сакрат у Беларусі адзін… Такая ў нас тады адбылася размова.

Падчас сустрэч з Сакратам Яновічам, я стараўся запытацца ў яго пра ўсіх, хто быў родам з яго родных Крынак, што на Беласточчыне. Пытаўся і пра Янку Геніюша з Ларысай Геніюш. Неяк не вельмі ахвотна іх успамінаў ён, але ж, калі я спытаўся, то шаноўны Сакрат павінен быў адказаць. Ён казаў, што з Ларысай Геніюш двойчы сустракаўся. Першы раз, дзякуючы Аляксею Карпюку з Гародні, калі наведалі ў Зэльве Ларысу і Янку Геніюшаў. А пасля яна была ў Беластоку ў сына, дзе яны таксама мелі сустрэчу. Гутарка тады была трагічная. Бо яе жыццё было трагічным. *"У Беласток паэтка прывезла мне стэнаграму выступлення Аляксея Карпюка на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у Менску 13 мая 1966 года. Яна была ўзрушана гэтым выступленнем. І я напісаў ліст Аляксею, выказаў сваю згоду з яго меркаваннямі і падтрымку. Але ж Аляксей Карпюк быў наіўным чалавекам і пачаў гэтым пісьмом хваліцца, што, маўляў, малады аўтар з Беласточчыны падтрымлівае яго. І тады зацікавілася мною савецкае КДБ. І я з-за гэтага страціў працу, быў беспрацоўным. Але мне шмат дапамагалі палякі...",* - адкрываў мне тайну Сакрат Яновіч.

У Крынках Сакрат Яновіч пісаў найчасцей прозу і вёў свае дзённікі, бо заўважыў, што дзённікаў ніхто не пісаў. Пісаў ён у апошні час вельмі марудна. Ды, як ён казаў, наша сялянскае асяроддзе не любіць пісаць дзённікаў. Ён запісваў факты, якія адбываліся і якія хутка знікнуць, і пра іх ніхто не будзе нічога ведаць. А для нашчадкаў жыццёвыя факты трэба захаваць. І ён занатоўваў іх.

У апошні час Сакрат Яновіч часта мне казаў, што беларускую літаратуру, культуру, мастацтва трэба еўрапеізаваць. Таму што ўвесь час беларуская літаратура з'яўляецца філіяй рускай, а так не павінна быць.

Сакрат Яновіч быў суб'ектыўным і розным і ў адносінах да беларускай культуры. Успамінаю яго радкі з дзённіка, якія былі апублікаваныя ў "Czasopise" у № 07-08 2004 года і якія мяне вельмі ўсхвалявалі (я пра гэта пісаў), калі я прачытаў іх. Яны не даюць спакою мне і да сённяшніх дзён. А справа ў тым, што Сакрат Яновіч прыгадаў тое, як падчас сустрэчы са студэнтамі Берасцейскага ўніверсітэта Ян Чыквін вясною 2004 года сказаў (даслоўная цытата па дзённіку Сакрата Яновіча): *"Янка Купала не быў той велічу, якая нам уяўляецца: з мізэрнай адукацыяй, нядбайным пяром, з засцянковай ненаеднасцю, лёгка "куплены" саветамі і штучна ўзвышаны імі, тармазіў таленты, напр. Багдановіча, Арла. З перапевамі Mlodej Polski".* Вось аказваецца, якім быў наш беларускі песняр Янка Купала! Пры сустрэчах я некалькі разоў пытаўся пра гэта ў Сакрата Яновіча і ён пагаджаўся з Янам Чыквінам. А сказанае пра Янку Купалу добра пракаментаваў па маёй просьбе народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін: *"Янку Купалу саветам так і не ўдалося зрабіць сваім. Давялося знішчыць фізічна... Але Янка Купала - неба беларускай нацыі. А неба хапае на ўсіх...".*

Вось такім і застаўся ў маёй памяці Сакрат Яновіч. У нечым я пагаджаўся з ім, у іншым - не. Але да сённяшніх дзён памятаецца яго рэпліка: *"Толькі нацыя мае будучыню, ніколі насельніцтва, звычай бяздумнае, бо кіруецца не душою, а жыватом, тоўстай кішкаю...".*

Шаноўны, дзядзька Сакрат, мы, беларусы, - нацыя! Вялікі еўрапейскі народ, з якога і вы выйшлі родам і на мове якой пісалі свае творы.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# Этнабум у Шчучыне!

***На абласны фестываль "Панямоння жыватворныя крыніцы" з'ехаліся лепшыя фальклорныя калектывы Гарадзеншчыны***

З ранку на вялікай арт-пляцоўцы ля раённага цэнтра культуры і народнай творчасці ліліся беларускія народныя песні, а шчучынцы сустракалі гасцей літаральна з усіх раёнаў вобласці. Ля возера раскінуўся горад майстроў, дзе залатарукія і таленавітыя ганчары, ткаллі, вышывальшчыцы, фларысты, разьбяры па дрэве не толькі дэманстравалі свае арыгінальныя вырабы, але і давалі адмысловыя майстар-класы, паказвалі ўсе тонкасці свайго рамяства: толькі вучыся, пераймай досвед, што дастаўся ад нашых таленавітых продкаў! У разнастайных экспазіцыях з рэгіёнаў - брэндавыя сувеніры: са Свіслачы - свістулькі, з Астраўца - саламяныя кветкі, са Слоніма - какошнікі, а яшчэ - свіцязянскія туфлікі, зэльвенскія падкоўкі, воранаўскія лялечкі… Проста "на ўра" раскупляліся магнікі з відарысамі Шчучына і іншыя вырабы нашых умельцаў.




Але вось фанфары клічуць да галоўнай пляцоўкі абласнога фестывалю рэгіянальнага фальклору "Панямоння жыватворныя крыніцы". На сцэну выходзяць нашы чароўныя "Вяргіні" - народны фальклорны калектыў Ракавіцкага Дома культуры. Самабытную аўтэнтычную песню "Туман ярам, туман далінаю" падхопліваюць не толькі падрастаючыя юныя "вяргінькі", але ўсе творчыя калектывы вобласці, што прыехалі сёння на такі прыгожы фэст і стракатымі калонамі, у народных строях і са сваімі штандарамі, урачыста прайшлі да сцэны. І ўжо здаецца, што гэта гучаць галасы нашых продкаў - прабабуль, бабуль, матуль. Народныя песні - бы шчырыя гімны роднай зямлі, каханню, працы, чалавеку… Нашы продкі ўмелі спяваць і шанаваць духоўную спадчыну. І мы, сённяшнія, падхопліваем гэту надзвычай важную для нашага духоўнага развіцця навуку.

Вядоўцы Дзмітрый Паноў і Алена Барэль нагадваюць, што сённяшні фестываль, які аб'ядноўвае людзей самых розных зацікаўленняў і ўзростаў у іх гарачым памкненні падзяліцца народнымі скарбамі, прысвячаецца Году народнага адзінства. Сярод ганаровых гасцей - выкладчык этналогіі і мастацтваў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мікалай Козенка, які, дарэчы, з'яўляўся і старшынём прафесійнага журы фестывалю.




- Для мяне вялікае шчасце сёння тут прысутнічаць, бо столькі цікавага сканцэнтравана ў адным месцы! - выказаў сваё захапленне Мікалай Аляксеевіч. - Адчуваецца, што і абласная, і раённая ўлада падтрымлівае культуру рэгіёна. Вельмі важна захаваць свае карані. Ад кожнага з нас залежыць, ці зберажом мы сваю гістарычную памяць, ці пакінем будучым пакаленням незлічоныя скарбы фальклору…

Цёпла віталі ўдзельнікаў свята начальнік упраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкама Алена Клімовіч і старшыня Шчучынскага раённага Савета дэпутатаў Ганна Хвядзюк. Яны шчыра падзякавалі работнікам культуры, самадзейным артыстам, народным майстрам за тое, што захоўваюць нашу духоўную спадчыну, беражліва перадаюць лепшыя традыцыі маладому пакаленню.

- Мы вельмі рады вітаць усіх вас на гасціннай шчучынскай зямлі. Добрых танцаў і песень, творчых перамог! - пажадала шматлікім удзельнікам свята Ганна Станіславаўна Хвядзюк. - У добры шлях, фестываль!

Фальклорны марафон распачынае Дзятлаўшчына. Натхнёна гучаць народныя беларускія песні, паданні, сівыя легенды - цудоўная краса ў кожным слове! Працягваюць бясконцы ланцужок народнай творчасці ваўкавыскія і іўеўскія, свіслацкія і берастовіцкія, навагрудскія і слонімскія захавальнікі духоўных пярлін... Да самай глыбіні душы кранае лірычная пранікнёнасць фальклорнага гурта "Талер" з Ліды, кліча ў скокі жодзішкаўская "Нальшчаначка" з вянком беларускіх танцаў, уласцівых Смаргоншчыне, выклікаюць шчырае захапленне дзівосы мажэйкаўскага народнага ансамбля побытавых інструментаў, дзе граюць нават на… граблях, косах ды саганчыках! А як пяюць - салаўям на зайздрасць!

Мабыць, сапраўдным адкрыццём для шчучынскіх аматараў фальклору стаў і ўнікальны музыка з Гарадзенскага раёна Мар'ян Скрамбялевіч - чалавек-аркестр, што адначасова грае на




некалькіх інструментах, многія з якіх сам і вырабляе, аднаўляючы старажытныя тэхналогіі. Творчасць гэтага майстра, які да таго ж з'яўляецца кіраўніком аматарскага аб'яднання "Мястэчковыя музыкі" Адэльскага цэнтра культуры, уключана ў Дзяржаўны спіс гісторычна-культурнай спадчыны Беларусі.

Безумоўна, яркай і адметнай кветкай у этнаграфічным вянку Панямоння стала выступленне прадстаўнікоў Шчучынскага раёна. Танцы "Лысы" ды "Падэспань" у выкананні ўзорнага фальклорнага калектыва "Скарбоначка" Дэмбраўскага Дома культуры і фальклору выклікалі зачараванне і шчырыя апладысменты. А народны фальклорны калектыў "Вяргіня" Ракавіцкага ДК вынес на суд гледачоў і журы дзве аўтэнтычныя песні - "Я ў гарэшнічку гарэшкі рвала" і "Ішоў Ванька канаваю".



Больш за 60 канцэртных нумароў уключаў у сябе фестывальны марафон, але і на гэтым не перасталі бруіцца жыватворныя крыніцы Панямоння! Неўзабаве распачалося танцавальнае спаборніцтва "Спадарыня кадрыля", дзе ўслед за нашай славутай "Дэмбраўскай кадрыляй" гарэзліва скакалі котчынскую і масцішчанскую, лукскую кругавую і загорскую… Сёлета ўпершыню на Беларусі Гарадзенская вобласць ажыццявіла ўнікальны праект "ЭтнаБум". З пачатку чэрвеня і да апошняга жнівеньскага дзянька паўсюдна па выхадных праходзілі майстар-класы па беларускіх побытавых танцах. Вось і прадэманстравалі зараз творчы люд тое, чаму навучыўся. І гэта, скажу я вам, было цудоўна!

Каму ў сённяшні фестывальны дзень можна дужа паспачуваць, дык гэта… журы: ну паспрабуй вызначыць лепшых, калі літаральна кожны калектыў і кожны выступоўца - самародак! Перад тым, як будуць абвешчаны вынікі і названы пераможцы фестывалю, на сцэну выходзяць госці - заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь народны фальклорны гурт "Гасцінец" з аграгарадка Ракаў, што на Меншчыне.

Што тычыцца лідскіх калектываў, то лаўрэатамі II ступені сталі народны ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка", дзіцячы інструментальны гурт "Крынічка" (Мажэйкаўскі Дом культуры), Наталля Шчалканогава, Алена Шчэліна (аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры), Аляксандра Філіпава, Данута Жыдзіс, Зінаіда Кавалеўская (Мінойтаўскі КДЦ); за пераемнасць народных традыцый узнагароджана майстар па ткацтве аддзела рамёстваў Марыя Шылкоўская.

Пасля падвядзення вынікаў і ўзнагароджання пераможцаў адбыўся канцэрт знакамітага ансамбля танца, музыкі і песні "Белыя росы".

Падчас фэсту працавалі выстава "Ручнік - праз усё жыццё", каларытныя фотазоны ў стылі этна, гандлёвыя рады, кавярні пад адкрытым небам - ды хіба ўсё пералічыш? Проста, гэта трэба бачыць!

***Тацяна СТУПАКЕВІЧ.***

*Фота аўтара.*



# УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД РАЗУМЕННЯ



Гэта ўжо пятая грамадская сустрэча каля помніка нясвіжскай вёсцы Агароднікі, што амаль дашчэнту была спалена ў 1944 годзе падчас ворожага авіяналёту. Цягам чатырох гадоў сябры ТБМ збіраюць 7 ліпеня сюды, на ўскраек Нясвіжа (цяпер на месцы вёскі - вуліца Сымона Буднага) тых, хто жадае ведаць без белых плямаў гісторыю свайго краю. Часта нават сталыя ўдзельнікі такіх сустрэч-экскурсій здзіўляюцца: столькі пражылі, а вось пра трагедыю Агароднікаў не чулі. На



шчасце, была і ёсць магчымасць пачуць расповеды не толькі краязнаўцаў, але і сведак той жудаснай ночы з 6 на 7 ліпеня. Раней сваімі ўспамінамі дзяліўся Аркадзь Язэпчык, які 10-гадовым хлопцам бачыў, як гарэла родная хата і вёска; цяпер, калі яго не стала, не менш дэталёва і падрабязна раскажа пра ўсё былая настаўніца Ірына Шумейка (у 1944 ёй было 12 гадоў).

Падчас сёлетняй ліпеньскай сустрэчы прагучалі прапановы па азеляненні тэрыторыі помніка, яго культурным доглядзе. І вось у верасні ўжо сяброў ТБМ запрасілі далучыцца да працоўнай акцыі. Дзігмунтовіч Наталля расстаралася на саджанцы туі ды іншага кустоўя, падахвоціла да добрай справы паважаных жыхароў горада, наведвальнікаў сацыяльнага аддзялення. 10 верасня каля помніка ўсім хапіла працы, з рыдлёўкамі, вёдрамі, іншым патрэбным прыстасаваннем.

З'явілася і новая прапанова наконт змястоўнага эстэтычнага аздаблення глухой мураванай агароджы, што за помнікам. Мо не за гарой - новая сустрэча: усё залежыць ад разумення, актыўнасці і згуртаванасці.

***Наталля Плакса,***
*Нясвіж.*

*Навіны Германії*

# УГерманіі заявілі пра абразу Меркель польскім прэзідэнтам Дудам



Варшава аказала не самы цёплы прыём канцлеру Германіі Ангеле Меркель, а польскі прэзідэнт Анджэй Дуда абразіў нямецкага калегу адмовай ад сустрэчы з ёй, піша газета Die Welt.

Аўтар артыкула Піліп Фрыц напісаў, што, па яго дадзеных, сустрэча Меркель з Дудам планавалася загадзя, аднак па прыбыцці ў Варшаву нямецкаму канцлеру прыйшлося змяніць праграму візіту.

*"Вядома, некалькі пазней яна атрымала букет кветак ад прэм'ер-міністра Матэвуша Маравецкага ў парку Лазенкі, аднак прэзідэнт Дуда, які па пратаколе з'яўляецца першай асобай у дзяржаве, не павітаў Меркель"*, - гаворыцца ў публікацыі.

Die Welt адзначыла, што польскія СМІ за некалькі дзён да прыезду Меркель паведамлялі, што сустрэча з Дудам можа не адбыцца, бо апошні павінен быў наведаць памятныя мерапрыемствы ў Катавіцы.

Па меркаванні Фрыца, такім чынам польскі бок вырашыў адказаць Меркель за тое, што тая не запрасіла Дуду на ўрадавыя кансультацыі ў Берлін. Журналіст заявіў, што ні ў адной з краін ЕС не ставяцца да Польшчы так холадна, як у Германіі, і крок Варшавы - гэта абраза, якое сведчыць пра канфлікт паміж дзвюма дзяржавамі.

Аўтар матэрыялу адзначыў, што Польшча абагнала Італію па аб'ёме тавараабароту з Германіяй і заняла пятае месца ў спісе яе гандлёвых партнёраў, але ў палітычным сэнсе Варшаве і Берліну "няма чаго казаць адзін аднаму". Паміж краінамі ўсё больш разнагалоссяў, у польскіх СМІ выстаўляюць Германію ворагам, ды і ў цэлым у Варшаве ўсё часцей абмяркоўваюць магчымасць выхаду з Еўрасаюза.

***Die Welt.***

# Беларускаму адрыўному календару "Родны край" - 30 гадоў




Сёлета спаўняецца 30 гадоў, як пачаў выдавацца беларускі адрыўны каляндар "Родны край". Ён быў задуманы і выдадзены выдавецтвам "Беларусь" у 1991 годзе. Выйшлі з друку ўжо 30 беларускамоўных цікавых кніжачак-календароў. А ў кнігарнях Беларусі з'явіўся "Родны край"і на 2022 год. І па-ранейшаму каляндар выдае выдавецтва "Беларусь".

Самымі цікавымі календарамі "Родны край" былі календары, выпушчаныя ў 1990-х гадах. Наклад першых календароў дасягаў 26 тысяч, цяпер - 4 тысячы.

Тым не менш, адрыўны каляндар "Родны край " выдаецца да сённяшніх дзён і радуе чытачоў і калекцыянераў.

У ім шмат гадоў аматары беларускай гісторыі і культуры знаходзяць цікавыя звесткі пра жыццё і дзейнасць знакамітых асобаў Беларусі: вучоных, пісьменнікаў, акцёраў, мастакоў, архітэктараў, дасягненні якіх былі гонарам Бацькаўшчыны. Аматары паэзіі прачыталі і чытаюць у календарах вершы беларускіх паэтаў, смяшынкі, анекдоты, байкі.

Значнае месца ў "Родным краі" займалі і займаюць матэрыялы на тэмы выхавання дзяцей і медыцыны, спорту і турызму, прыроды і экалогіі, здаровага ладу жыцця і правільнага харчавання, падабраныя з улікам даследаванняў вучоных і дактароў. З радасцю і захапленнем у календарах чытаюцца карысныя побытавыя парады, рэцэпты прыгатавання страў нацыянальнай і сусветнай кухні.






***Сяргей ЧЫГРЫН.***




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Манкевіч Віктар - 30,00 р.
2. Сеўрук У.А. - 10,00 р.
3. Ралько Леанід Міхайлавіч - 30,00 р.
4. Чыгір Яўген - 10,00 р.
5. Чайкоўскі Павел Іванавіч - 25,00 р.
6. Жыдаль Дз. У. - 100,00 р.
7. Анісім А. - 250,00 р.
8. Вяргей - 250,00 р.
9. Кукавенка Іван Іванавіч - 15,00 р.
10. Сасноўскі П.А. - 50,00 р.
11. Іваноў І.І. - 2,00 р.
12. Фурс А.В. - 65,00 р.
13. Ляскоўскі Уладзіслаў Канст. - 80,00 р.
14. Лапіцкі Андрэй Валер'евіч - 50,00 р.
15. Сеўрук У.А. - 10,00 р.
16. Буднік І.Ф. - 30,00 р.
17. Баранаў І.А. - 3,00 р.
18. Дайнека А.В. - 20,00 р.
19. Якімовіч А.Н. - 25,00 р.
20. Бубен Канстанцін Канстанц. - 15,00 р.
21. Птушка С.І. - 5,00 р.
22. Прымшыц Д.І. - 20,00 р.
23. Дабразычлівец - 20,00 р.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанк" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

*Леанід Лаўрэш*

# Сяклюцкія і маёнтак Стрэліца на Лідчыне

*(Заканчэнне. Пачатак у папяр. нумары.)*

Вада з сажалкі праз канал выцякала ў іншую сажалку, якая была выкапана сярод гародаў маёнтка. З гэтай другой сажалкі вада праз роў сцякала ў рэчку Лебядка. Над гэтай, другой сажалкай, з зямлі выбранай пры яе капанні, быў насыпаны курган, на якім стаяў драўляны крыж. Каля крыжа, на адмыслова зробленым алтарыку, адбываліся травеньскія набажэнствы. Пра гэты крыж, пастаўлены на месцы пахавання паўстанцаў 1863 г., я напішу трошкі ніжэй, а зараз заўважым, што крыж стаяў ужо ў 1894 г.

Вядома, што будынкі маёнтка Стрэліца разам з жылым домам неаднаразова гарэлі, звычайна пажары пачыналіся з кухні, якая месцілася ў жылым доме. Таму пасля апошняга пажару, кухню вынеслі дастаткова далёка ад жылога дома, да таго ж яна была адгароджана ад дома дрэвамі і кустамі. Гэта рашэнне аказалася вельмі практычным, і дом больш не гарэў, але калі ў халады ў дом везлі ежу, яна астывала і таму яе трэба было падаграваць у буфетным пакоі. У гэтым жа пакоі гатавалі смачныя дэсерты і сочывы і таму тут усё ж мелася невялікая кухонная печ за якой, каб заўсёды быць недалёка ад гаспадароў, начаваў нехта са служкаў.

За садам, гародам, гаспадарчымі будынкамі, домам арандатара фальварка і жылымі дамамі рабочых маёнтка, знаходзілася невялікае ворнае поле памерам каля 10 дзесяцін. Аднак галоўная ралля маёнтка ляжала за дарогай на Жалудок, за гэтай раллёй раслі лясы Стрэліцы, за лясамі стаяў фальварак Вольгаўцы які межаваў з іншым маёнткам Хацяновічы, якім ужо валодалі Шалевічы.

Найцікавейшай гістарычнай постаццю Стрэліцы быў Канстанцін Сяклюцкі, чалавек, які нарадзіўся ў 1-й палове XIX ст. і жыў у другой палове гэтага стагоддзя. Ён рана аўдавеў - жонка Ганна памерала ад тыфу. У маёнтку адукацыяй дзяцей займалася немка, гувернантка Цацылія Хаберман, якая пражыла ў Стрэліцы да канца сваіх дзён і лічылася членам сям'і.

Пахаваўшы жонку і забяспечыўшы будучыню сваіх дзяцей, Канстанцін Сяклюцкі даручыў кіраванне маёнткам эканому, а сам заняўся самаадукацыяй. Меў шмат сяброў, цікавае асяроддзе, досціп, жывы характар, шляхетную душу, выбітны інтэлект і замілаванне да падарожжаў і прыгод. Наведаў многія краіны Еўропы, ведаў шмат моў, у Парыжы сябраваў з Гамбетам і лятаў з ім на паветраным шары падчас асады горада немцамі. Закончыў у Парыжы матэматычны факультэт Сарбоны, а потым ў Пецярбургу музычную кансерваторыю, заснаваную ў 1862 г. славутым піяністам Антонам Рубінштэйнам, які быў яго прафесарам фартэпіяна. Пасля Пецярбурга зноў жыў у Парыжы, дзе ў другога вядомага кампазітара Пабла Сарасаце ўдасканальваў сваю ігру на скрыпцы і віяланчэлі. Належаў да тыпу людзей, якія маючы матэрыяльныя сродкі, выкарыстоўваюць іх, каб паглыбляць свае веды ва ўсё новых сферах дзейнасці замест манатоннай працы на гаспадарцы.

Каля 1895 г. Канстанцін Сяклюцкі нарэшце вярнуўся ў Стрэліцу. Маёнтак, які доўгі час жыў без гаспадара, знаходзіўся ў заняпадзе. Але гэта не надта хвалявала Сяклюцкага. Ён перарабіў вялікі більярдны зал сядзібнага дома ў музычны пакой. У гэтым пакоі знаходзіліся шафы з нотамі, два фартэпіяна, тры віяланчэлі і скрыпка высокай якасці, зробленая самім майстрам Антоніем Страдывары з Крэмоны. Менавіта тут ён праводзіў канцэрты з вельмі шырокім рэпертуарам. Сам Канстанцін граў на скрыпцы ці віяланчэлі, а дзве спадарыні: яго сястра Альшанская і маці стрыечнай сястры сп-ня Вольф - на фартэпіяна. Улетку гэтыя канцэрты праходзілі сярод прыгожай прыроды стрэліцкага двара - пахлі кветкі, стракаталі конікі, чуліся салаўіныя трэлі - усё гэта стварала адчуванне неверагоднай гармоніі.

Постаці Канстанціна Сяклюцкага прысвяціў фрагмент сваіх успамінаў яго стрыечны ўнук Ян Люцыян Кастравіцкі: *"Па адукацыі мой дзед быў матэматыкам - закончыў Сарбону. Як гэта бывае сярод матэматыкаў, ён быў вельмі музыкальным чалавекам і пасля Сарбоны закончыў кансерваторыю ў Пецярбурзе, вучыўся ў прафесара Рубінштэйна на класе віяланчэлі ... Потым асеў у Стрэліцы, ажаніўся з Юндзілоўнай з Сеняжыц, што на Наваградчыне і працягваў займацца матэматыкай, падтрымліваючы сталыя кантакты з еўрапейскім навуковым светам - у першую чаргу з французскімі матэматыкамі. Заняткі матэматыкі давялі яго да таго, што ён зрабіўся маньякам - калі стала зразумела, што вынікі даследаванняў, якімі ён займаўся шмат гадоў, былі памылковымі, учыніў самазабойства.*

*Цалкам не публічна быў пахаваны ў Жалудку ў сямейным склепе - толькі ксёндз акрапіў труну святой вадой перад тым як яе апусцілі ў магілу. Ён жадаў каб яго так пахавалі і менавіта такі план свайго пахавання пакінуў у перадсмяротным лісце."*

Але суседзі лічылі, што самазабойства адбылося з-за вялікай запазычанасці і дрэннага фінансавага стану маёнтка.

Замілаванне Канстанціна да музыкі, хоць і ў меншай ступені, але працягвалася ў яго сынах і ўнуках.

Атрымаўшы паведамленне пра самазабойства свайго бацькі Канстанціна Сяклюцкага, Вінцэнт, які рыхтаваўся да ваеннай кар'еры, неадкладна вярнуўся ў Стрэліцу і пераняў маёмасць. Яго брат Станіслаў ужо працаваў інжынерам-пуцейцам на будаўніцтве Транссібірскай чыгункі, праз нейкі час ён ажаніўся з расіянкай, і кантакты сям'і з ім спыніліся.

Каля 1900 г. Вінцэнт Сяклюцкі жэніцца з Феліцыяй з Навакоўскіх, дачкой заможных землеўладальнікаў з-пад Любліна. Пасаг Феліцыі дапамог істотна паменшыць даўгі Стрэліцы. Да пачатку Другой сусветнай вайны Стрэліца мела 1000 га, гаспадарка спецыялізавалася на малочных прадуктах, мясе, рыбе, гародніне, садавіне, а таксама прадавала будаўнічы лес і дровы. На ферме маёнтка працавала 10 пастаянных рабочых, якія жылі тут з сем'ямі, атрымліваючы пансіён і прытулак. Падчас жніва наймалі дадатковых работнікаў з суседніх вёсак.

Да выбуху Першай сусветнай вайны сям'я жыла ў сваім маёнтку а пасля пачатку вайны, у Гатчыне пад Санкт-Пецярбургам разам з мужам і бацькам Вінцэнтам Сяклюцкім, мабілізаваным у царскую армію. Толькі ўлетку 1915 г. Феліцыя вярнулася ў Стрэліцу.

Апісаны мною вышэй сядзібны дом у Стрэліцы быў спалены казакамі пры адступленні рускіх войскаў ў канцы жніўня 1915 г. і ніколі больш не адбудоўваўся. Як успамінала дачка Вінцэнта Ванда, *"... на двор заехала казачая сотня. Яны адразу ж пачалі капаць траншэі па ўсёй даўжыні гаспадарчага двара і канфіскавалі ўсю жывёлу. 300-гадовая сядзіба з лістоўніцы была спалена ..."*. Ад маёнтка засталіся руіны. Былі страчаны велізарныя каштоўнасці: сямейныя партрэты, старыя дакументы і бібліятэка. Акрамя сядзібы, таксама было знішчана каля дзесятка гаспадарчых будынкаў. Нягледзячы на пажар, не згарэлі "чвтаракі" (дом на чатыры сям'і) дзе жылі рабочыя. Потым жыхары чваракаў прымуць у сябе сваіх былых гаспадароў.

Агледзеўшы спаленую маёмасць, Феліцыя з чатырма дочкамі і настаўніцай паннай Ядвігай Шалевіч (пазней Славінскай), з'ехала са Стрэліцы. Яна знайшла сабе дах над галавой у маёнтку Семяжыцы каля Наваградка, які належаў сваякам Юндзілам. Потым, сям'я Сяклюцкіх жыла ў маёнтку Ратошын які таксама належаў сваякам Сяклюцкіх. Каля 1923 г. Вінцэнт Сяклюцкі паставіў новы драўляны дом (па іншай інфармацыі перабудаваў у жылы дом муравaную стайню), і ўся сям'я вярнулася ў Стрэліцу. У 1929 г. Стрэліца мела толькі 400 га зямлі.

У 1933 г., ва ўзросце 63 гады, гуляючы са сваёй жонкай у карты, памёр ад кровазліцця ў мозг гаспадар маёнтка Вінцэнт Сяклюцкі. Ён быў пахаваны на невялікіх могілках у Беразаўцы. Яго жонка Феліцыя на той момант мела 51 год.

Унук Вінцэнта Сяклюцкага Міраслаў Здановіч, які першыя 14 гадоў свайго жыцця правёў у Стрэліцы, успамінаў:

*"Мне было 8 гадоў, калі Вінцэнт памёр. Такім чынам, мае ўспаміны - гэта ўспаміны малога дзіцяці. Вось некалькі малюнкаў з маёй памяці:*

*Мне 5 гадоў - Вінцэнт, трымаючы мяне за руку, вядзе вакол сталовай. Пахне тытунём, і я баюся.*

*Мне 7 ці 8 гадоў - Вінцэнт вядзе мяне ў стайню, каб паказаць, як сесці на каня. Ён выдатны вершнік, я захапляюся ім.*

*Ён грае на віяланчэлі цудоўную музыку, і я слухаю яго.*

*Вінцэнт быў як найменш, сярэдняга росту. Ён трымаў сябе надзвычай прама і хадзіў як атлет. Вочы меў цёмна-сінія, валасы светла-шэрыя, лоб высокі і агалены.*

*Ён быў задаволены сваім лёсам, любіў дзяцей, часта расказваў нам гісторыі і казкі.*

*Я думаю, у яго былі нейкія асаблівыя планы наконт мяне. Магчыма, яму здавалася, што так ці інакш я атрымаю ў спадчыну Стрэліцу. Можа быць, гэта толькі маё ўяўленне, але хто ведае?"*

Пасля смерці мужа Фяліцыя Сяклюцкая падзяліла маёмасць паміж дочкамі: Ванда атрымала фальварак Прудзішча, Ядвіга - Польнае, Яніна - Багатэлі, малодшая з сясцёр - незамужняя Марыя засталася з маці ў Стрэліцы. Восенню 1939 г. Фяліцыя з унукамі і дочкамі Марыяй і Ядвігай уцякла ў цэнтральную Польшчу. Памерла ў 1960 г.

А зараз яшчэ раз пра крыж на месцы пахавання паўстанцаў 1863 г.

Сусед Сяклюцкіх Караль Лясковіч пісаў: *"На адлегласці 1,5 км ад Стрэліцы, у паўднёва-заходнім накірунку знаходзілася адзіная ў гэтай мясцовасці шляхецкая ваколіца Станкевічы. Паміж дваром і ваколіцай меўся высокі курган з крыжам на вяршыні - помнік 1863 г. Тут была агульная магіла паўстанцаў, палеглых у сутычцы з казакамі".*

Пасля знаходкі гэтай інфармацыі, на месца пахавання была зладжана экспедыцыя, і быў знойдзены той самы курган, дзе пахавалі паўстанцаў. 14 красавіка 2019 г. гарадзенскія, лідскія і бярозаўскія актывісты ўсталявалі крыж паўстанцам Кастуся Каліноўскага на кургане ў былым фальварку Стрэліца на Лідчыне. Пра гэтыя падзеі напісана ў газеце "Наша слова" № 49 (1408), 5 снежня 2018.

---

У менскім выдавецтве "Белпрынт" пабачыла свет кніга "Тапонімы роднага краю і побыт яго насельнікаў". Гэта вельмі цікавы пазнавальна-адукацыйны краязнаўчы нарыс пра мясціны Пухавіцкага раёна, у якіх адбываліся тыя ці іншыя гістарычныя падзеі. Аўтарамі адметнага выдання пра сваю малую радзіму сталі студэнтка біяфака БДУ Арына Клімовіч і былы выпускнік філфака ўніверсітэта, яе дзед, адстаўны міліцэйскі падпалкоўнік Станіслаў Іванавіч Крэпскі.

Калі для ўнучкі гэта першая спроба пяра, дык на творчым рахунку цяперашняга выкладчыка дапрызыўнай падрыхтоўкі Менскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя № 7 будаўніцтва гэта ўжо шостая кніжка. Раней выйшлі з друку ягоныя кніжкі "Кросны жыцця", "Вайсковыя прыгоды", "Маня-Марыя", "Зазірнуць за небасхіл" і "Ліквідатары". Другая па ліку прысвечана светлай памяці дзеда аўтара, удзельніка грамадзянскай вайны на Беларусі Антося Варатніцкага. Апошняя з названых - ліквідацыі ў Хойніках наступстваў катастрофы на ЧАЭС, у якіх у ліпені 1986-га маёр Крэпскі прымаў самы актыўны ўдзел, а гэтаксама ягоным таварышам- саслужыўцам. У іх ліку - генерал-маёр Алег Уладзіміравіч Прылуцкі, які стаў аўтарам прадмовы да выдання.

**ПРАПАНОВА НАСТАЎНІЦЫ**

Роўна пяць гадоў таму выкладчыца беларускай мовы Менскай СШ № 23 прапанавала васьмікласніцы Арыне напісаць на гарадскі конкурс працу пад назвай "Тапаніміка". Дзяўчына, продкі якой з пухавіцкай вёскі Раўчак, дзе жыве сёння прабабуля Надзея Сцяпанаўна, пагадзілася і прынялася за нялёгкую справу.

Першым чытачом і крытыкам стаў дзядуля. Ён адразу ж заўважыў, што напісана ўсё энцыклапедычна суха, няма неабходнай жывінкі, больш шырокага аповеду пра ўзгаданыя мясціны, а менавіта - што і чаму адбылося ў часе паходжаннем назваў. У выніку вырашылі, што гэтыя мясціны павінны распавесці пра сябе вуснамі іх старых жыхароў. Акрамя сваякой і блізкіх знаёмых у іх ліку аказаліся прадстаўнікі аграгарадка "Пухавічы" Галіна Іванаўна Мароз, Ніна Пятроўна Лопан, Валянцін Радкевіч і Георгій Лінскі. У выніку з 11 старонак на аркушах А-4 нарыс павялічыўся да 50. Ды вось бяда - конкурс кудысьці знік… Аўтарка, вядома ж, шкадавала, што дарэмна патраціла гэтульскі часу. І тут пачула ад дзеда ягонае выратавальнае: "Не расстройвайся, не перажывай і не сумуй, зробім асобнае выданне, я прафінансую!". Ведаючы пра тое, што Арына актыўна працягвае сваё даследаванне, яе запрасілі паўдзельнічаць у гарадскім конкурсе вучнёўскіх прац, па выніках якога прысудзілі прызавое месца. Станіслаў Іванавіч быў шчыра рады за ўнучку і так

# ГЕАГРАФІЯ БІЁЛАГА І ФІЛОЛАГА




захапіўся працай, што не змог не далучыцца да яе сам. Пры гэтым вырашыў распавесці не толькі пра тапонімы роднага краю, але і пра побыт ягоных насельнікаў. Так з'явілася кніга, якая ад агульных намаганняў толькі выйграла. Аўтары натхнілі нас быць не Іванамі няпомнячымі, а быць тымі, хто ведае, хто і адкуль мы пайшлі, чаму так завёмся. Яны запрашаюць нас зазірнуць у далёкае мінулае, "адкапаць" свае карані і паказаць іх нашчадкам праз назвы лясоў і палёў, крыніц і ўзгоркаў, рэчак і балот, тых жа населеных пунктаў. Дзед з унучкай звяртаюць нашую ўвагу не толькі на паходжанне назваў буйных населеных пунктаў, рэк, азёр, пушчаў ды іншага, але і на больш дробныя аб'екты. Яны, як высвятляецца, былі ў свой час буйнымі, і не толькі ў сваіх памерах, але і ў гістарычных падзеях. З часам яны проста страцілі былое палітычнае, альбо культурнае значэнне. А там жа нарадзіліся многія знакамітыя землякі, якія тварылі гісторыю тых, іхніх часоў. На вялікі жаль, сёння гэтыя аб'екты апынуліся, падкрэсліваюць аўтары, на задворках жыцця і паціху вымiраюць… Але памяць пра іх памерці не павінна.

### ВОТЧЫНА КНЯЗЁЎ

З кніжкі, пра якую гаворка, я ўпершыню з вялікім здзіўленнем даведаўся, што назва Пухавічаў пайшла ад назвы маёнтка князёў Пуховічаў. Згодна даследаванням аўтараў, уладальнікі пабудавалі ў 1504 годзе свой маёнтак такім чынам, каб з Усходу яго прыкрывала Свіслач, а з Поўдню - Цітаўка. Пасля тога, як тут пачаў сяліцца просты і няпросты люд, і ўтварылася вёска Пуховічы. У Пухавічы ж яна перайменавалася пад уздзеяннем рускай арфаграфіі. Націск перамясціўся, і літара "у" стала націскной. Браты Пуховічы, якія моцна сябравалі з панам Ваньковічам, падчас руска-шведскай вайны далі бой захопнікам і загінулі, як героі… Пасля іх мястэчкам валодалі ў розныя гістарычныя перыяды Ваньковічы, Ярашэвічы і Дамброўскія.

У сярэдневечны Пуховічы падтрымлівалі водныя сувязі з Кіевам, Валынню, Паўночным Прычарнамор'ем, мелі прамыя стасункі з Прыбалтыкай. Гэта быў так званы шлях з "варагаў у грэкі". Не, зусім невыпадкова старажытны населены пункт стаў улюбёным месцам прадпрымальнага і майстровага люду - яўрэяў. Менавіта яны "прыдалі некалі нязначнаму паселішчу ўсходніх славян рысы мястэчка. Праз пэўны час яўрэі сталі самай вялікай (пасля беларусаў) нацыянальнай групай. Цікава, што ў XIX стагоддзі, ды і пасля адмены прыгоннага права амаль у кожнага пана быў свой "жыд", які кіраваў гаспадаркай.

Мястэчка некалькі разоў знішчалася і зноўку адраджалася. Пасля вайны 1654-1667 гадоў тут налічвалася толькі… дзесяць дамоў. У 1865-м усю мясцовую шляхту, якая падтрымала паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, рэпрэсавалі.

Недалёка ад Пухавічаў ёсць вёскі, паходжанне назваў якіх аўтарам удалося вызначыць, дзякуючы мясцовым жыхарам. Напрыклад, Зацітава Слабада знаходзіцца за Цітаўкай, а назва Слабада - ад віду паселішча. Між іншым, праз вёску пралягаў Кацярынінскі шлях. Падчас яго актыўнага функцыянавання Аскіркі, Аўсянікі, Няпомнікі, іншыя тутэйшыя адпачкаваліся і стварылі сваю вёску Грабаўё. Яе назва паходзіць ад слова "граб". Такіх дрэў навокал хапае. Дзядуля Станіслава Іванавіча расказваў унуку, што менавіта ў тых мясцінах рос такі магутны граб, крона якога накрывала… палову гектара. А вакол расло мноства яго маладых сыноў. Вёска вымерла як бесперспектыўная. Як жа я ненавіджу гэтае слова з часоў колішняга ка-муністычнага лідара Беларусі Машэрава! Божа, Божа, колькі ж у нас такіх сельскіх паселішчаў, з якіх усё некалі пачыналася і на вялікае шчасце майго пакалення нейкі час працягвалася! Трагічны лёс і шматлікіх дарог ды шырокіх шляхоў, што пралягаюць праз памятныя, незабыўныя мясціны... У 30-я гады мінулага стагоддзя ў Грабоўі рэпрэсавалі 28 заможных гаспадароў, восем з якіх расстралялі. Цяпер у Зацітавай Слабадзе - пакінутыя дамы, зарослыя пустазеллем агароды, лецішчы з закратаванымі вокнамі.







Што тычыцца паходжання найменняў іншых мясцін, то Беразянкай адну з вёсак назвалі з-за месца яе знаходжання на высокім правым беразе Свіслачы. А вось на нізкім (левым) яе беразе - Падбярэжжа. На гэтым жа беразе ракі, якая пачынаецца недалёка ад валожынскай вёскі Шапавалы, месціца і Балачанка, дзе ў гаспадара Дзяткі любіў адпачываць Якуб Колас. Гэтае паселішча - у месцы ўпадзення ў Свіслач аднайменнай з ім рэчкі. На Балачанцы і вёска Балоча, назву якой тлумачыць, як разумееце, не трэба.

Ёсць на Пухаўшчыне вядомы лес Бойня. Позняй восенню 1812-га расійскія войскі разграмілі ў ім атрад адступаючых французаў, тут жа іх, дарэчы, і пахавалі. Таму і адпаведная назва крывавага лесу. За ім раскінулася поле пана Антонія Асоўскага, рэпрэсаванага за ўдзел у паўстанні Каліноўскага. Яго выслалі у сібірскі горад-астрог Омск. Нашчадкі, якія там аселі, наведалі ў 2020-м Пухавіцкі краязнаўчы музей-сядзібу свайго продка і падаравалі ўстанове грунтоўны фаліянт пра свой род. Дарэчы, Станіслаў Крэпскі, з якім мы ўжо шмат гадоў знаёмыя, расказаў мне ў мінулым красавіку, як у кастрычніку 2020-га разам з настаўнікам гісторыі Мар'інагорскай школы Барысам Ібрагімавічам Мухам ён абследаваў былы маёнтак. Аказалася, левае крыло сядзібы сярэдзіны XVIII стагоддзя - з дубу, а правае - з лістоўніцы. Прайшлі вякі, а гэтым пародам дрэў - усё не па чым! Прыкладам таму - і слупы з лістоўніцы ў Цітаўцы, на якія абапіралася частка млына. Стаяць яны, пачарнелыя, ў вадзе, і часу для іх не існуе. Вось была б гэткай моцнай і трывалай нашая агульная памяць! Дзед і ўнучка даказваюць сваёй адмысловай працай, што такой яна, усё ж, можа быць!

З поўначы і захаду поле згаданага вышэй Асоўскага прытулілася да магутнага сасновага бору, таму ўладальнік і называў яго Баравое. Ад асноўных земляў яно знаходзілася далекавата, і было аддадзена ў арэнду. У выніку на гэтым месцы ўзнікла вёска Баравая. Пасля таго, як Асоўскі прыкупіў у пана Ёдкі яшчэ гектараў пяцьдзясят зямлі, ён назваў свой чарговы надзел Новым полем і гэтаксама аддаў яго арэндатарам. Баравая тым часам разрасталася, і тутэйшыя пачалі перасяляцца на Новае поле. На ягоным вольным пляцы яны пабудавалі вёску, якую назвалі Наваполле.

### РОДНЫ РАЎЧАК

Паўднёвей Баравой і Наваполля з'явілася ў даўнія часы родная вёска аўтараў краязнаўчага нарыса - Раўчак. Уздоўж яе *"працякаў гаманлівы ручэй з невялікім грукатлівым, асабліва вясной, вадаспадам. Цяпер на ім месціца даволі ладная вадасховішча з карасямі, якое мясцовыя называюць Копанка"*. Прыкладна за кіламетр ад Раўчака размясцілася ўзвышша, якое называюць Маяк. Тут знаходзіўся драўляны геадэзічны маяк. Ён спарахнеў і быў дэмантараваны, але ж назву, падкрэсліваецца ў даследаванні, мясцовыя пакінулі. Праўда, зацітаваслабодцы і ўзвышша, з якога праглядваецца непаўторнае ўрочышча Блужскі Бор, і прылеглыя лясныя масівы называюць Барчакамі

Новы сацыялістычны праект прадугледжваў у Раўчаку шырокую вуліцу, па абодва бакі якой размяшчаліся дамы. Асобна ад вёскі, пры лесе Ёдкаўшчына, прыцягвала вока сядзіба Астапа Александровіча па мянушцы Мунька. Таму гэтую гаспадарчую пабудову з садам і агародам і называлі Мунькаў Кут. А пры лесе Барок, пры дарозе, што кіравалася на суседнюю Катоўшчыну, знаходзілася сядзіба Тэклі Фурс, муж якой геройскі загінуў на мінулай вайне, падчас якой раён страціў 11328 сваіх жыхароў. У гонар былога гаспадара сяляне самі, без усялякага сельсавета, назвалі месца Фурсавым клінам...


*Вуліца вёскі Раўчак*

Урочышча Катоўшчына, высветлілі Арына і Станіслаў Іванавіч, належала некалі пану Катовічу з Пухавічаў і мела назву Катоўшчына, якую людзі спрасцілі. Так атрымалася і яшчэ ў адным выпадку. З назвы вёскі Маркаўшчызна выкінулі, для больш зручнага вымаўлення, адну шыпячую літару, у выніку атрымалася - Маркаўчызна.

На новым пляцы Раўчака прыцягвалі калісьці ўвагу землі такіх дбайных, багатых гаспадароў, як браты Міхась і Кастусь Казакі ды Марцін Масілевіч. Апошняга, як міраеда і класавага ворага, саслалі ў Заходнюю Сібір. Падчас Вялікай Айчыннай ён беспераашкодна вярнуўся дадому і да сваіх 104 гадоў дагледаў вялікую гаспадарку дачкі Броні, расказваючы ўнукам Антосю і Алёнцы пра свой лёс ды савецкую ўладу…

Што тычыцца мясцовых дарог, то іх называлі па іх накірунку да населеных пунктаў: машчонаўская, восаўская, грабаўская, пухавіцкая, слабацкая, маркаўшчызнянская, раўчацкая. Па машчонаўскай і раўчацкай перавозілі сена, нарыхтаванае ў нянадта топкім балоце з сакавітымі духмянымі травамі Казлоў Рог. Каля Восава яно было шырокае, а далей, да Свіслачы, звужалася ў крывы клін, нагадваючы рог казла. Належала пры гэтым, тут нельга не рассмяяцца (!) пану Казелу. Завочна мястэчковыя клікалі яго казлом. Так і не зразумела: ці то за падабенства, ці то за прыналежнасць утварылася гэтая інтрыгуючая назва.

Час на месцы, вядома ж, не стаіць, і некаторыя назвы, заўважаюць даследчыкі, адыходзяць у нябыт. Мала хто ўжо ведае, дзе знаходзіліся Дзямідовічаў сенакос, Доўнарава поле, Крапівішча, у якім быццам бы вынашвалі супраць калгасаў свае тэрарыстычныя планы кулакі Раўчацкія, Бараўскія, Навапольскія ды Грабаўскія…

Кніга Арыны Клімовіч і Станіслава Крэпскага не можа не ўражваць не толькі іхніх землякоў, але і тых беларусаў, якія, нягледзячы ні на што, працягваюць цікавіцца сваім сапраўдным мінулым шукаючы свае карані. Даследчая праца дзеда і ўнучкі заслугоўвае вялікай павагі і ўвагі з прычыны таго, што грунтуецца не толькі на частцы раней здабытых навукоўцамі фактах ды новых архіўных знаходках, але і на памяці тых, хто яшчэ жыве на сваёй малой радзіме.

Застаецца шчыра падзякаваць аўтарам за глыбокую даследчую дзейнасць, за тую велізарную і каштоўнейшую працу, якая даходліва, яскрава і душэўна адлюстроўвае розныя бакі жыцця і дзейнасці беларусаў, дапамагае нам вызначыць сваю самаідэнтыфікацыю, заставацца адданымі роднай зямельцы людзьмі.

*Уладзімір Барысенка.*

# У Уздзенскім раёне паставілі помнік бульбе











У вёсцы Дзешчанка, што ў Уздзенскім раёне, адкрылі сімвалічны знак бульбе.

Месца выбрана не выпадкова: кожную восень тут праходзяць бульбяныя кірмашы і фестывалі. На адным з іх і прэзентавалі скульптуру, паведамляе mlyn.by.

11 год таму ў вёсцы на тэрыторыі мясцовай школы з'явіўся першы на Беларусі музей бульбы.

Раней на месцы школы была эксперыментальная база, дзе спецыялісты вырошчвалі новыя насенныя гатункі бульбы беларускай селекцыі.

*mlyn.by.*

# Свята "Гаспадарчыя прылады запрашаюць на забавы!"

**(Кніжная выстава "Хата з матчынай душою", выстава экспанатаў этнаграфічнага пакоя "Скарбы Бацькаўшчыны", інтэлектуальная гульня "Бабулін куфэрак")**



Свята "Гаспадарчыя прылады запрашаюць на забавы!" адбылося ў аграгарадку Тарнова Лідскага раёна на мінулых выхадных. Супрацоўнік філіяла "Тарноўская сельская бібліятэка" прыняла актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні свята. Для гасцей мерапрыемства была арганізавана кніжная выстава "Хата з матчынай душою", выстава экспанатаў этнаграфічнага пакоя бібліятэкі "Скарбы Бацькаўшчыны". Госці і жыхары аграгарадка змаглі азнаёміцца з прадметамі матэрыяльнай культуры сялян пачатку 20 стагоддзя ў галіне керамікі, кавальства, дрэваапрацоўкі, пляцення з прыродных матэрыялаў, ткацтва і вышыўкі і г.д. Інтэлектуальная гульня "Бабулін куфэрак" сабрала самых дапытлівых і эрудыяваных гасцей мерапрыемства. Гульні, пачастункі, пазітыўныя эмоцыі - усяго гэтага было ў дастатку на свяце "Гаспадарчыя прылады запрашаюць на забавы!". Выдатным дадаткам мерапрыемства сталі музычныя і творчыя нумары супрацоўнікаў Тарноўскага дома культуры і народных калектываў Лідскага раёна, якія стварылі незабыўную атмасферу вясёлага настрою і цёплай гасціннасці.





***Кацярына Сандакова,***
*бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы".*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru



**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 13.09.2021 г. у 17.00. Замова № 2177.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,88 руб., 3 мес.- 8,64 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.